Opłata pocztową
uiszczono ryczałtem

Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ СПРАВА

Выходзіць два разы ў тыдзень.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
Вільня, Віленская вул. 12—6. (Wileńska 12, m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзён. Адміністр. ад 9 да 3.

Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 1 зл. 50 гр.
Для заграніцы ўдвая даражэй. Перамена адрэса 30 гр.
Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукаванага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 гр. за радок пэтыту ў 1 шпальту.

№. 17 Вільня, Нядзеля, 13-га чэрвеня 1926 г. Год I.

**№ 16 „Беларускае Справы“ з 12-га чэрвеня сканфіскаваны камісарам ураду на м. Вільню за стацьцю „Плакаць ці цешыцца?“, аддзел „З жыцьця Горадні“ (заметкі: „З вастрогу ў Горадні“, „Зьдзек над сям'ёю беларускага грамадзкага дзеяча“) і карэспандэнцыю з Гарадка, Маладэчанскага пав., пад загалоўкам „Дзе права?“.**

## Да нармальнае працы.

„Прыпарыла, нахмарыла і—ўдарыла...“— такімі славамі наш без пары памершы паэт характэрызуе надыход у прыпар навальніцы, якая так-жа хутка мінае, як і прыходзе.

Вось гэты абраз Алеся Гаруна дужа падобны да апошніх падзеяў у Польшчы. І тут у затхлай атмасфэры раскладу і маральнае гнілі нейкай віхурай мільганулі крывавыя дні на вуліцах Варшавы, было многа грукату і шуму, многа вострых і рашучых слоў, а ў выніку ўсяго—жыцьцё вярнулася ў сваю старую каляіну....

Так прынамся сталася на „вярхох“ сацыяльнае будоўлі Польшчы. Пануючыя клясы захавалі ў непарушным стане свае старыя пазіцыі. Апрача зьмены прэзыдэнта і ураду—ўся адміністрацыя, блізу ўсе ваяводы, усе старосты і іншыя ўрадоўцы, у рукі якіх аддадзена жыцьцё, воля і дабрабыт „нізоў“ насяленьня, астаюцца на сваіх становішчах. І стары падзел дзяржаўных цяжараў не зьмяніўся, і спосабы спагону падаткаў.... Усё—як і раней было....

Крыху інакш адбіліся маёвыя падзеі на „нізох“ сацыяльнае драбіны ў Польшчы. Сяляне і работнікі тут яшчэ мала сьвядомыя, слаба з'арганізаваныя. У іх яшчэ не пасьпела разьвіцца вера ў сябе—ў сваю ўласную сілу. Яны—паводле старое традыцыі—склонны былі ждаць для сябе вызваленьня ад магутнае волі і гэройскіх дзеяньняў адзінак, якія захацелі-бы ім дапамагчы....

Такія настроі панавалі і сярод беларускае масы. І затым-та ў першы мамэнт аружнага выступленьня п. Пілсудскага раптам прыпомніліся ўсе ягоныя старыя нязьдзейсьненыя абяцанкі і пасулы. Можа цяпер яны зьдзейсьняцца?!....

*Ня зьдзейсьніліся і цяпер.* Ня зьдзейсьніліся, бо і не маглі зьдзейсьніцца: так ужо наладжана жыцьцё народаў, што *даюць* толькі тым, хто *мае сілу сам узяць*, а ў слабых адбіраюць і тое, што яны маюць, ды ня могуць самі ўтрымаць....

Так счэзла „ачараваньне“ імем Пілсудскага ў усіх тых, хто йшчэ *хацеў* верыць у гэтае імя. Счэзла—і ўжо ня вернецца.

Затое мы вярнуліся да старых „нармальных“ у буржуазнай дзяржаве варункаў жыцьця, вярнуліся да тае сацыяльнае, палітычнае і нацыянальнае „раўнавагі“, на якой пабудавана сучасная Польшча. І ніводнае з нашых заданьняў—ці то сацыяльна-палітычных, ці культурна-нацыянальных, ці эканамічна-гаспадарчых ані не зьмянілася: наадварот, яны ўсе з яшчэ вялікшай сілай трэбуюць свайго зьдзейсьненьня, але ўжо не прыпадковымі „гэроямі“, а *самымі працоўнымі масамі*—сялянамі і работнікамі.

Дык і шляхі, на якіх можна зьдзейсьніць гэтыя нашыя заданьні і здаволіць нашыя патрэбы, астаюцца ўсё тыя-ж: гэта — перадусім *арганізацыя нашых сіл.*

Навучаныя і гістарычнымі прыкладамі, і ўласнай практыкай, і—ўрэшце — прост лягічным разважаньнем, больш сьвядомыя беларускія сялянскія і работніцкія элемэнты ужо даўно ўзышлі на гэты шлях. А сваю арганізацыю яны абаперлі на ідэі *аб'яднаньня працоўных вёскі і места*, якія толькі йдучы разам могуць спадзявацца перамогі ў змаганьні за ідэалы і сялян, і работнікаў. — З гэтай мэтай у Заходняй Беларусі ўтварылася палітычная партыя—*„Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада“*, якая і зьяўляецца тым цэнтрам, дзе выходзяцца абедзьве вялізарныя арміі працоўных.

Партыя гэтая—*легальная*, і кожны беларускі селянін, кожын работнік *мае права і павінен да яе належаць.* „Ідучы да сваіх мэтаў—гаворыцца ў праграме партыі— Беларуская Сялянска - Работніцкая Грамада карыстаецца шляхам легальнай, законнай барацьбы на аснове канстытуцыі і права“.

На гэтым шляху партыя ў жыцьці Заходняе Беларусі мае перад сабою шырокія магчымасьці і іх будзе выкарыстываць у поўнай меры. Трэба толькі, каб працоўныя нашых мест і вёсак падалі сабе ўзаемна руку на груньце *супольнае арганізацыі*, трэба, каб ніводная вёска, ніводнае мястэчка не асталіся па-за межамі арганізацыі,—і сялянска-работніцкая партыя, магутная, як сам наш працоўны народ, *вывядзе беларускія масы на шлях перамогі.*

## Новы урад.

Поўная адсутнасьць якой небудзь кіруючай думкі, напрамку і пляну ў спраўцаў „перавароту“ 12—14 траўня найляпей выявілася на складзе нарэшце зложанага новага ўраду. Запраўды-ж—нярта было ня то, што ліць гэтулькі крыві, але навет—зьмяняць „дарэвалюцыйны“ ўрад — дзеля таго, каб набраць людзей зусім прыпадковых, нікому няведамых, а калі ведамых, дык сваей няздарнасьцю, а навет — нефаховасьцю, якіх набраў у свой габінэт прэм. Бартэль, ці той, хто стаіць за ім.

Вось як выглядае пакуль што гэты „ўрад маральнай рэвалюцыі“:

Прэм. Бартэль, можа, добры чалавек, а навет і чэсны інжэнер, здаецца, добры прафэсар-спэцыяліст. А толькі палітык—з учарайшага дня, ня маючы ніякага пляну ані праграмы дзяржаўнай працы.

Міністар унутр. спраў—той-жа п. Млодзяноўскі, што тапіў навет пэпээсаў на Палесьсі, лічучы навет іх „выўратоўцамі“. Чым ён горшы за п. Рачкевіча, гэта—тайна п. Бартэля!

Мін. загран. спраў — З. Залескі, галоўная спэцыяльнасьць якога — так-званая „заграпічная прапаганда“, ці папросту—арганізаваньне друку ў заграпічных газэтах (за грошы!) заметак і стацей, прыхільных да Польшчы. Як гэта называецца прасьцей, ня трэба казаць. Ясна адно, што ніякай новай творчай думкі новы кіраўнік у вонкавую палітыку Польшчы не ўнясе. Дый наагул замена Скшыньскага Залескім—ня варта навет паўшклянкі тэй „найдаражэйшай крыві“, аб якой так многа казалася нядаўна.

Ваенны міністар —марш. Пілсудскі. Як фахавец-міністар яшчэ не паказаў сябе нічым. Можа пакажа цяпер. Ясна толькі адно, што марш. Пілсудскі рашуча зьняў з сябе адказнасьць за агульны напрамак і працу ўраду, хаця, як фактычны спраўца „маральнага перавароту“, перадусім ня меў на гэта якраз—**маральнага права.**

Мін. скарбу—Клярнэр, аб якім „Robotnik“ кажа, што навет у параўнаньні з Чэховічам гэта — „зьмена на горшае“. П. Клярнэр, як сьцьвярджае „Robotnik“, „зьвязаны з буйным капіталам і яго палітыкай“, дык гэта—„ня суліць ніякага карыснага для працоўных звароту ў гаспадарча-фінансавай палітыцы Польшчы“.

Мін. справядлівасьці—Макоўскі, які быў ужо ў габінэце Сікорскага і добра даўся ў знакі беларусам і ўкраінцам.

Мін. асьветы — часовы — Мікулоўскі-Паморскі, — той самы „міністар рэлігіяў“, што разам з паліцыяй „паляваў на праваслаўных архіярэяў“, выкідаў аднаго за адным заграніцу ці садзіў у кляштарную турму. Спадзявацца ад яго, каб спыніў зьніштажэньне беларускай школы, няма падставаў.

Мін. зямляробства і зямельных рэформ — п. Рачыньскі, тварэц „закону аб парцэляцыі і асадніцтве“, які жорстка крыўдзіць беларускіх і ўкраінскіх сялян...

Найбольш характэрна для „перавароту“, на які ўскладалі столькі надзеяў паны пэпээсы, з лона якіх выйшаў сам Пілсудскі, гэта — тое, што абодва міністэрствы, зьвязаныя з справамі работніцкай клясы, заняты нейкімі няведамымі п. п. Юркевічам і Бронеўскім, а не пэпээсамі... Навет у габінэце Скшыньскага гэтыя партфэлі былі аддаНы П. П. С...

Мін. гандлю і прамыслов. — Квяткоўскі, аб якім „Rob.“ цьвердзіць, што гэта—эндэк...

Такі склад ураду ясна, што — ані зямлі, ані школы, ані—падаткавых палёгак ён нам ня дасьць.

Але можа яшчэ больш цікаўны і характарны тыя кандыдатуры, якія паважна высоўваліся ў часе перагавораў. Дык вось найцікаўнейшым з кандыдатаў быў—слаўны лідэр абшарнікаў у Сэнаце—п. Стэцкі, які—у часе разгляду зямельнага закону ў Сэнаце — выступаў галоўным аратарам кампаніі абшарнікаў проці закону дый шмат пагоршыў—на карысьць абшарнікаў — праведзены праз Сойм закон... Наагул трэба сабе добра ўцяміць запраўды ж дзіўную любоў хаця-б нашых крэсавых абшарнікаў да марш. Пілсудскага, каб адразу аценіць усю „небясьпеку“ яго „рэвалюцыі“ для абшарнікаў...

## Фінансавыя справы.

Усе былыя міністры фінансаў у адзін голас заўсёды казалі, што інфляцыя (выпуск незабясьпечаных золатам, ці добрымі валютамі папяровых грошаў) вельмі шкодная рэч. Апошнія міністры скарбу сцьвярдзілі слушна, што „другой інфляцыі Польшча ўжо ня вытрымае“,—бо гэта ўжо—нямінуючая катастрофа.

Але таксама — усе былыя міністры, бяз вынятку, так ці інакш—дзеля падтрыманьня бюджэтнай раўнавагі,—часамі, каб папросту выплаціць пэнсіі ўрадоўцам, — мусілі карыстацца тэй-жа згубнай інфляцыяй. Бо — скуль-жа інакш узяць грошы на разбудаваныя па-над стан дзяржаўныя патрэбы, калі іх не хапае з даходаў? Ну, дык і—друкуюцца грошы, ці вэксалі дзяржавы, па якім плаціць зараз-жа працоўнае насяленьне краю, трацючы на спаўшай вартасьці атрымліваных грошаў.

Ужо ад мін. Грабскага гэтая інфляцыя рабілася ўсё спрытней, маючы на ўвеце—найляпей закрыць ад краю і заграніцы свой запраўдны характар. Так ужо была ўведзена ў Польшчы падвойная валюта—два роды злотых паперак: злоты Польскага Банку, так ці інакш забясьпечаны фондамі Банку, і — злоты Польскага Скарбу, „забясьпечаны“ толькі — загадам польскай дзяржаўнай улады прымаць яго нароўні з злотым Польскага Банку. У лік гэтай другой валюты ўваходзіць і вялізарная колькасьць так званага білёну, ці мэталічнай манэты. Ясная рэч, што першая валюта ідзе пераважна за граніцу, а другая мае ход у краі, дзе толькі і можа быць абавязкавай яе „прымусовая вартасьць“, не забясьпечаная рэальнымі цэннасьцямі Банку.

Новы (цяпер ужо былы) міністар „габінэту маральнай санацыі“ п. Чэховіч таксама, як усе яго папярэднікі, ня зыйшоў з традыцыйнага шляху інфляцыі. На аплату найпільнейшых вэксалёў, выданых „маральнай рэвалюцыяй“, патрэбны былі грошы; бягучыя выдаткі на дзяржаўныя патрэбы, таксама неяк пашыраныя „маральным уздымам“ у Польшчы, не чакалі. А, з другога боку, „маральны пераварот“ разбудзіў сярод наіўных веручых шмат надзеяў на розныя падаткавыя палёгкі, дык людзі неяк не сьпяшаліся плаціць наложаных папярэдняй уладай істнуючых падаткаў. Касы дзяржаўныя пусьцелі. Трэба было даставаць грошаў. Дык і сталі ізноў—друкаваць паперкі.

Але ж трэба, каб усё адбылося маральна дый — па закону! Дык міністар Чэховіч і выдумаў вось які дасьціпны шлях.

Пазываючыся на розныя скарбовыя „ўставы“, праведзеныя яшчэ Ул. Грабскім, але зусім ня меўшыя тых мэтаў, якія меў мін. Чэховіч, ён выпусьціў яшчэ

на 30 мільёнаў гэтай другой валюты—так-званых „білетаў здавковых“—на гэткіх „законных“ падставах.

Адзін закон Грабскага кажа, што ўрад мае права дзеля пазыкі на ўнутраным рынку — выпускаць „скарбовыя білеты“ (тэрміновыя вэксалі Скарбу), але так, каб іх заўсёды было ня больш, як на 100 мільёнаў злотых. Другі закон Грабскага кажа, што для аблягчэньня купляньня гэтых скарбовых білетаў (для аблягчэньня падпіскі на гэтую ўнутраную пазыку, за якую скарб меў плаціць добры процант) урад мае права выпусьціць „білетаў здавковых“, ці скарбовых злотых на 50 проц. (на палову) вартасьці ўсяго выпуску білетаў.

Што-ж робіць п. Чэховіч? Ён выпускае на 60 мільёнаў злотых гэтых „вэксалёў дзяржаўнага скарбу“, па 10.000 зл. у кожнай паперцы, добра-ж ведаючы, што іх купляць ніхто ані ў краі ані заграніцай ня будзе—бо ў краі ніякіх вольных капіталаў ані даверыя да ўраду няма. Аб заграніцы — дык ляпей ужо і не казаць. Але закон дае яму магчымасьць — „для аблягчэньня купляньня гэтых білетаў“ — выпусьціць на палову сумы „здавковых“ (разьменных) паперак, што яму якраз і патрэбна! Тады ён выпускае на 30 мільёнаў паперак „другой валюты“, за якія Скарб неяк сам... купляе „білеты“, выпушчаныя Скарбам! Гэткім чынам у кішані пана Скарба апынуліся—ня толькі 60 мільёнаў у паперках па 10.000 зл., якія ляжаць сабе, бо нікому не патрэбны, але яшчэ і на 30 мільёнаў дробных грошаў, зусім „маральна“ і „легальна“ выпушчаных, — якімі ўрад можа пакуль-жто абярнуцца ў крытычны мамэнт—зараз-жа пасьля „маральнай рэвалюцыі“.

Праўду казаў марш. Пілсудскі: „пасьля выбару новага прэзыдэнта ўсё ў Польшчы застанецца па-старому“. Трэба толькі спадзявацца, што ўсё неяк пойдзе да мэты... хутчэйшым тэмпам!..

**Н.**

# Пасьля агульнай забастоўкі у Англіі.

Агульная забастоўка ў Англіі скончана. Не працуюць яшчэ пакуль што вуглякопы, аднак шансы іх на перамогу, ясна, далёка цяпер меншыя. Капіталістам страшна была толькі салідарнасьць усіх работнікаў; маючы справу з аднымі вуглякопамі, яны адразу паадважнелі і дамагаюцца зьмяншэньня заработных плат на 10 працэнтаў ды далейшых зьніжак у найбліжэйшай будучыні.

Прычына няўдачы забастоўкі—здрада правадыроў ангельскіх прафэсіянальных саюзаў (гэтакіх самых, як у нас П. П. С). Кожнаму ведама, як цяжка работніку прыступіць да забастоўкі. Капіталісты абрэзываюць заработную плату, жыць можна, толькі выбіваючыся з сіл ды напалавіну галадаючы, але з другога боку ўчасьце ў забастоўцы, хаця-бы навет фабрыканты ў канцы змушаны былі ўступіць,—зразу адбіраець работніцкай сям'і ўсё, бо-ж ніхто не зарабляе, а запасаў няма.

Выбар тутка ня лёгкі, аднак, ангельскія работнікі ведалі ўжо з практыкі, што перамога капіталу ў адным мейсцы азначаець прарыў на ўсей лініі. Дружна падтрымалі яны вуглякопаў і гатовы былі змагацца супольна з імі да канца. Пачалі хадзіць чуткі, што ў забастоўку будзе ўключана так-званая **другая лінія**—гэта значыць: акрамя вуглякопаў і прылучыўшыхся да іх работнікаў транспорту ды мэханікаў, мелі кінуць працу ўсе другія работнікі (почта, тэлеграф, вада, прыватныя прадпрыемствы).

Вось-жа гэтага та і спужаліся сацыял-здрадніцкія правадыры. Забастоўка ўсіх без выключэньня работнікаў пры адкрытым падтрыманьні капіталістаў урадам мусіла-б завастрыць барацьбу да апошніх граніцы. У Англіі магла ўзьняцца рэвалюцыя.

Але-ж усюды для сацыял-здраднікаў буржуазны парадак даражэй, як інтарэсы работнікаў; іх палохае рэвалюцыя. Дык яны і пачалі круціць. Буржуазныя сынкі і падкупленыя падонкі работніцкай клясы арганізавалі ўдар забастоўцы. Замест прызваць работнікаў да барацьбы з штрайкбрэхерамі, сацыял-здраднікі радзілі работнікам „карыстаць з вольных дзён“, „аддыхаць сьвежым вясеньнім паветрам“, „гуляць у футболь“ і г. далей. Такія рады—ў часе, калі капіталісты зьбіралі цэлую армію для зламаньня забастоўкі, маглі даваць толькі „сацыялісты“ тыпу П. П. С. Нарэшце, бачучы, як палажэньне завострываецца з кожным днём, управа, кіруючая забастоўкай і апанаваная імі—спыніла агульную забастоўку.

Гэта тое самае, як бы ў часе наступленьня на ваенным фроньце афіцэры скамандавалі вылезшым з акопу салдатам вяртацце назад! Шмат работнікаў не паслухала здраднікаў, іншыя ня ведалі, што робіць, рэшта паслухала. У гэтым замяшаньні агульная забастоўка разьбілася, асталіся адны вуглякопы, каторыя пробуюць змагацца далей самі.

У сваей адозьве да работнікаў усіх краёў ангельскія вуглякопы гавораць: „мы ведаем, што змагаемася ў абароне інтарэсаў і правоў усіх работнікаў. Паміма спыненьня агульнай забастоўкі **правым** крылом прафэсіянальных саюзаў, мы лічым, што не апынімся адны: нас падтрымаюць работнікі іншых краёў. Просім работнікаў усяго сьвету, каб і далей не дапускалі транспорту вугальля ў Англію, просім таксама матэр'яльнае помачы. Кожны грош, які вы зьбярэце для нас,—будзе вялікай дапамогай у барацьбе за адваяваньне людзкіх варункаў жыцьця“.

Як бы ня скляліся абставіны,—цяжка лічыць сягодня на перамогу ангельскіх вуглякопаў. Надта ўжо няроўная барацьба. Пакуль работніцкі рух ня будзе ачышчаны ад сацыял-здрадніцкіх элемэнтаў, яшчэ не адзін раз работнікі праіграюць. Ангельская забастоўка—жывы доказ гэтага.

**К.**

# У Польшчы.

## Сялянскія рухі.

Як падае „Роботнік“ (№ 157), у Влошоўскім павеце знаходзіцца маса войска і паліцыі. Прызвалі іх абшарнікі, заяўляючы, што сяляне пасуць на іх пожнях скаціну, навет нападаюць на двары.

Вёска Вэнгжынова была абстаўлена кулямётамі, і арыштавалі ў ёй 15 асоб. Паліцыя па дарозе да пастарунку біла арыштаваных.

У Баранавіцкім павеце 13 конных паліцыянтаў пад камандай упраўляючага маёнткам А. Ставінскага напала на вёскі Войніцы і Цыганка. Шэсьць сялян цяжка ранены і знаходзяцца ў бальніцы.

## Забастоўка ў фабрыцы „Perkun“.

У фабрыцы матораў „Perkun“ (Варшава) забаставалі 8 г. м. ўсе работнікі лікам 400. Прычына забастоўкі—нявыплачываньне ўправай фабрыкі заработнай платы ад некалькіх ужо месяцаў.

## Галадоўка палітычных вязьняў у Беластоцкім вастрозе.

Пасьля галадоўкі ў Вільні і Наваградку выбухла новая—у Беластоку.

350 палітычных вязьняў, чакаючых ўжо па 14 месяцаў на суд, дамагаюцца спыненьня зьдзекаў з боку адміністрацыі. На месца высланы спэцыяльны дэлегат міністэрства справядлівасьці.

Хаця пасьля перавароту што-раз то галасьней з усіх канцоў дзяржавы чуваць крык: „звольніце палітычных вязьняў“! — урад глухі на яго. Так-званыя польскія сацыялісты, пішучы аб галадоўцы ў Беластоку, выражаюць толькі сваё нездаваленьне з прычыны таго, што задоўга прыходзіцца арыштаваным чакаць на суды...

## Чуткі аб—„Дзяржаўнай Радзе“.

Газэты пішуць, быццам у Польшчы, замест Сойму і Сэнату, будзе створана нейкая „Дзяржаўная Рада“—з 30 асоб з розных партыяў, якія будуць папросту назначаны... прэзыдэнтам. Гэтая Рада будзе мець „дарадчы голас“ дый права кантролю працы ўраду... Праект высунуты быццам кракаўскімі кансэрватарамі, якія, здаецца, маюць іграць значную ролю ў дзяржаўнай працы новых кіраўнікоў Польшчы...

## Якім хацела-бы відзець „Rzeczpospolita“ будучы Сойм?

„Каб Сойм мог выпаўніць свае задачы, трэба рашуча ўвясьці навуковы цэнз і цэнз веку“. Гэта значыць, што па іхняму ў Сойм можна было-б выбіраць толькі буржуяў і абшарнікаў, бо хоць у галаве іх пуста, але ўсе яны пакончылі навукі.

„Каб Сойм перастаў быць месцам інстытуцый, вызываючых абурэньня ў народзе, ды кампрамітуючых яго самага трэба“... можа думаеце не выбіраць панкоў, ды фаховых ашуканцаў, каторыя якраз найбольш аскандаліліся?—не і не!... „трэба скончыць з пасольскай нятыкальнасьцю“, — або іначай: заткнуць горла паслом ад сялян і работнікаў, каторыя ў Польшчы найбольш карысталіся свабодай выступленьняў...

Апэтыты нішто, можна сказаць!

## Ці разлом і ў П. П. С.?

Карфантаўская „Рэчпаспаліта“ паведамляе, што ў лоне „адзінай і непадзельнай“ П. П. С. зрабіўся раскол.—Некалькі паслоў быццам выйшлі з партыі, ці выключаны з яе—за „прыхільнасьць да палітыкі Пілсудскага“. „Роботнік“ страшэнна лаецца на газэту за гэтую „брахню“... Можа П. П. С. чаго яшчэ і спадзяецца ад „палітыкі Пілсудскага“, але—хутка прыдзецца ўсё роўна рваць або з Пілсудскім, або—навет з тэй „спакойнай“ часткай пралетарыяту, на якой пэпээсы, паводле трафнага выражэньня Пілсудскага (ходзіць такая чутка...)—„жыруюць, як вошы“. У кожным разе — „жыраваць“ адначасна на „імені Пілсудскага“ ды на пралетарыяце ўжо ня можна..—Трэба было-б выбраць адно з двух.

## Як змагаліся з безрабоцьцем.

„Sprawiedliwość“ (№ 21) падводзіць ітогі барацьбы папярэдніх урадаў з безрабоцьцем.

Наагул, безрабоцьце за той час ня зьменшылася, а, наадварот, збольшылася. „Успакаівалі“ безработных, як ведама, больш аружжам і арыштамі, як дапамогай.

Так за час ад 21/XI—25 г. да 17/IV—26 г. была пушчана на таўпу 65 разоў конная паліцыя і 65 разоў у таўпу стралялі. Цяжка і лёгка раненых—250 асоб, забітых 13, арыштаваных каля 1100.

## Пэнсія п. Войцеховскаму.

Чытаем у „Niezależnym Chłopie“ (№ 26), што быўшаму прэзыдэнту Рэспублікі—Войцехоўскаму прызнана аж да сьмерці пэнсія. Плаціць яму будуць месячна, як чыноўніку першай клясы.

# Заграніцай.

## Чарговая сэсія Рады Лігі Народаў і пагроза развалу Лігі.

7 чэрвеня пачаліся паседжаньні чарговай сэсіі Рады Лігі Народаў. Сэсія мае апрацаваць усе праекты, якія мае аканчальна зацьвярдзіць верасьнёвая сэсія Агульнага Збору Лігі. На першым мейсцы сярод гэтых праектаў стаіць справа прыняцьця Нямеччыны ў склад Лігі дый справа пашырэньня Рады Лігі. Апошняя справа амаль не развяліла Лігу ўжо на сакавіковай сэсіі Агульнага Збору. Дый цяпер, як ні круцілі Чэмбэрлены і Брыяны, але здаецца — ня ўдасцца ім папярэдзіць выхад з Лігі Бразыліі, а мо' навет і Гішпаніі. Бразылія ўжо заявіла, што выйдзе, калі ня будзе дадзена ей сталае мейсца ў Радзе.

Паміж іншым, на сэсіі Рады прадстаўнік Англіі з трыумфам заявіў аб — поўным паразуменьні між Англіяй і Турцыяй у справе Мосулю, якая столькі часу пагражала вайной на Блізкім Усходзе.

## Румынія зброіцца.

Румынія атрымала пазыку ад Англіі — 200 мільёнаў ліраў на падводныя лодкі.

Трэба-ж зразумець, што Румынія — толькі адзін „адрэзак“ у тым „усходнім фроньце“, якім наагул так цікавіцца Англія. З гэтага трэба заключыць, што не забыта і бліжэйшая суседка ды саюзьніца Румыніі на гэтым-жа „фроньце“...

Дык можа гэтым „супольным фронтам“ тлумачыцца шмат што з апошніх падзеяў у Польшчы?!...

## Новы літоўскі прэзыдэнт аб праграме ўраду.

Як падае „Słowo“ (№ 133), у прамове да прадстаўнікоў прэсы новы прэзыдэнт Літвы д-р Грыніўс ня толькі крытыкуе працу папярэдняга ўраду, але кажа аб патрэбе замены шмат якіх літоўскіх законаў новымі. Перадусім лічыць прэзыдэнт неабходным скасаваньне ваеннага стану. Адносна да амністыі ён кажа гэтак: „нашыя вастрогі перапоўнены. Сядзяць у іх салдаты і афіцэры за розныя службовыя правіннасьці. Кара большая, чым віна. Грамадзянства нічога ня страціць, калі дасьць ім свабоду. Тое самае і з палітычнымі. Маем іх некалькі катэгорый: працуючых на карысьць суседніх дзяржаў, камуністаў і фашыстаў. Гэтыя апошнія далі пазнаць сябе ў часе выбараў, раскідываючы пракламацыі з заклікамі да перавароту. Усе яны павінны быць выпушчаны, апрача тых, што сідзяць ужо другі раз“. „Патрэбна рэарганізацыя палітычнай паліцыі, бо Літва была дагэтуль паліцэйскай дзяржавай, — а такжа новая, справядлівейшая палітыка да нац. меншасьцяў“.

Ваенны стан на граніцы з Польшчай ня будзе зьняты.

Новы прэзыдэнт вялікую вагу кладзець на прыязныя зносіны з ССРР.

Праграма, значыцца, буржуазна — ўмяркаваная; паглядзім, як будзе яшчэ правадзіцца.

## Новы скандал з Гіндэнбургам у Нямеччыне.

У Нямеччыне новую сэнсацыю зрабіла апублікаваньне пісьма прэз. Гіндэнбурга да старшыні міжпартыйнай камісіі ў справе плебісцыту (ўсенароднага галасаваньня), ці трэба плаціць былым нямецкім каралям ды князям за сканфіскаваныя рэвалюцыяй іх маёнткі?

Гіндэнбург рашуча націскае на старшыню, даводзячы, што несправядліва адбіраць уласнасьці князёў без адшкадаваньня, бо гэта было-б — агіднай „няўдзячнасьцю“ адносна да слаўных нямецкіх „валадароў“...

Апублікаваньне лісту выклікала страшэннае абурэньне сярод нямецкай дэмакратыі, а перадусім сярод сацыял-дэмакратаў. У адказ на гэта Гіндэнбург праз сваю канцэлярыю заявіў, што ліст гэты запраўды пісаны ім, дый што ён вельмі задаволены фактам яго апублікаваньня і не адмаўляецца ад ніводнага напісанага ў ім слова...

Спадзяюцца вострых сутычак дзеля гэтага ў парляманьце.

## Зьезд „чырвоных франтавікоў“ у Бэрліне.

У Бэрліне на Сёмуху адбыўся зьезд „чырвоных франтавікоў“ з усей Нямеччыны. Паміма перашкод (дзяржаўныя чыгункі да апошняга дня ўтрудвялі дарогу), як пішуць газэты, быў магутны. Прыймалі ў ім учасьце да 300 тысяч людзей.

Нямецкія фашысты дамагаліся забароны зьезду, даказываючы, што „чырвоныя франтавікі“ могуць выклікаць рэвалюцыю. У часе паходу правакавалі яны праліцьцё крыві і толькі дзякуючы запраўды жалезнай арганізацыі і дысыпліне „франтавікоў“, дысыпліне, на якую здольна толькі работніцкая кляса,—ахвяр ня было.

Цікавае апісаньне паходу аднэй з буржуазных бэрлінскіх газэт:

„Хто бачыў чырвоную дэманстрацыю, піша яна,—той мусіць лічыцца з камуністамі. Тыя, што прыехалі з усіх бакоў Нямеччыны,—гэта ня былі разбойнікі — гэта былі нямецкія хлопцы, якіх мы бачылі ў салдацкіх мундзірах; гэта былі работнікі—камуністы, якія ведаюць, чаго хочуць“.

## Француска-гішпанская канфэрэнцыя ў справе Марокко.

У Парыжу мае адбыцца канфэрэнцыя абедзьвюх пераможніц у мараккскай вайне — Фран-

цыі і Гішпаніі, на якой мае быць вырашана справа падзелу „ваеннае здабычы“ ці—зваяваных жывых народаў Марокка і іх зямлі.

### Насьпявае—між Японіяй і Амэрыкай...

Амэрыканскія газэты страшэнна абураны апублікаванымі ў іх быццам тайнамі плянамі Японіі — захапіць гвалтам Філіпінскія астравы (якія, дарэчы напомніць, — таксама захоплены аружна Амэрыкай ад Гішпаніі). Так пакрысе ды паволі—падрыхтоўваецца як насяленьне Амэрыкі, таксама і сусьветная апінія—да нямінучай вайны між Амэрыкай і Японіяй.

## ХРОНІКА.

**Суд над беларусамі.** 22./VI. с. г. у Віленскім Акружным Судзе будзе разглядацца справа жыхара м. Пастаў Дзеравянкі Аляксандра і жыхара вёскі Целякі Аляксандра Целяка, абвінавачаных — першы з арт. 126 ч. I К. К. — другі з арт. 129 ч. I, III і IV Кар. Код.

Бараніць будзе вядомы адвакат Родзевіч.

**Выкіданьне незаможных вучняў.** Як даносіць „Robotnik“ (№ 157), у Лунінцы выкідаюць з урадавае гімназіі 200 вучняў, пераважна беларусаў, з прычыны неўнясеньня належнай аплаты за навуку.

Сярод насяленьня пануе вялікае абурэньне. Цяжка мужыцкаму сыну вучыцца!

**Водгукі першага мая ў Вільні.** У польскай мясцовай прэсе вядзецца спрэчка аб адкрытым пісьме ўласьніка складу пэрфумаў—В. Вубэ. Вубэ абураецца на студэнтаў за напад на работніцкі паход. Сцьвярджае, што акадэмікі былі п'яныя, і што гэта не дастойна грамадзяніна-паляка. Далей ён выражае зьдзіўленьне з прычыны таго, што студэнцкая моладзь не запратэставала проці хуліганства калег фашыстаў, паведамляе, што ня будзе больш даваць ахвяр на акадэмічныя меры.

**Забастоўка шаўцоў у Вільні трывае.** Прыймае ў ей учасьце каля 900 асоб. 9/VI мелі мейсца бойкі. Ходзяць чуткі, што мае быць абвешчана клясовымі союзамі агульная забастоўка.

**Скандальныя экзэкуцыі.** Як мы ўжо падавалі, у апошнія дні ў Вільні здарыўся цэлы рад дзікіх скандалаў пры забіраньні маемасьці дробных гандляроў за падаткі. Скандалы выклікаены былі сэквэстратарамі, якія, прыкладам, на Дравяным рынку пачалі забіраць жывую рыбу ў мяхох, хаця гэта было раўназначна з зьнішчэньнем тавару, які ў такую гарачыню мусіў-бы згніць бескарысна. Тое-ж было ў Галях, дзе забіралі масла і сыры—так сама на глум. У абодвух выпадках справа скончылася баталіяй, пры чым пацярпелі абедзьве староны.

Але надовячы здарыўся скандал, які ня меў падобных. Аднаму купцу, які не аплаціў значнае сумы падатку, нядоімка была раскладзена на раты—па 300 зл. у тыдзень. Калі сэквэстратар прыйшоў за чарговай ратай, купец даў яму гэныя 300 зл. і атрымаў квіт. Пасьля напісаньня квіта сэквэстратар зусім неўспадзеўкі загадаў прыведзеным людзям забіраць мяшкі з цукрам — на пакрыцьце нядоімкі! Муж пабег у скарбовую палату, а жонка пачала бараніць сваё дабро, якое бралі сілай. Пачалася тузаніна і крыкі: ратуйце! рабуюць! Народ пачаў зьбягацца на гэныя крыкі. Сабралася вялізарная таўпа — нешта каля 1.000 душ.—Скончылася ўсё тым, што ўрэшце скарбовы ўрад загадаў прыпыніць дзікую сцэну.

Віленскія купцы страшэнна ўзбураны ўсімі гэтымі фактамі. Яны пастанавілі больш не звярачацца да мяйсцовае ўлады, якая дапускае падобныя выпадкі, а да старшыні ўраду, міністра скарбу і соймавых паслоў з пратэстам і жалабай на паступаньне віленскае скарбовае палаты.

**З выдавецкае нівы.** За апошнія часы беларуская выдавецкая праца ў Заходняй Беларусі разьвіваецца вельмі слаба, апрача аднае толькі прэсы, якая ў Вільні складаецца з трох беларускіх часопісяў і аднае польскае дэфэнзыўнае ў беларускай мове („Белар. Слова“). Выход новае беларускае кніжкі—рэдкае зьявішча. У сувязі з гэтым прыходзіцца адзначыць факт, што пачынаюць друкаваць кніжкі ў беларускай мове людзі і арганізацыі, далёкія ад беларусаў і беларускага руху. Гэтак у Лодзі Выдавецкае Т-ва „Компас“ выпусьціла пабеларуску **„Эвангельле паводле Лукі“**—ў перакладзе, зробленым з грэцкае мовы. Эвангельле высылаецца Т-вам дарма—за зваротам коштаў перасылкі—ўсім, хто зьвернецца да Т-ва.

**Дарэмныя патугі.** Нездаволены пратэстам беларускіх матурыстаў проці брудных выступленьняў „доктара“ Павлюкевіча проці грам. А. Луцкевіча,—„дохтар“ пробаваў вырваць у некаторых з іх заявы, быццам яны падпісалі свой пратэст „несьвядома“. Аднак, моладзь з абурэньнем адкінула гэтыя прапазыцыі.

**Афіцыяльны курс грошы на 10 чэрвеня.** Даляр —10 зл. — гр. Залаты рубель — 5 зл. 25 грошы.

10. VI. на чорнай біржы ў Вільні за даляр плацілі 10,25.

---

Ніколі не зьніштажай сваей беларускай газэты! Прачытаўшы, давай суседу, ці знаёмаму, каб і ён пазнаў праўду аб жыцьці свайго народу і даведаўся, што робіцца на сьвеце!

## Надужываньне улады.

*(Пісьмо з Стоўпцаў).*

Наваградзкае ваяводзтва, дзе „панаваў“ перш пан ваявода Рачкевіч, а цяпер „пануе“ ведамы фашыстаўскі генарал Янушайтіс, лічыцца ў вачох польскага ўраду адным з першых з пункту гледжаньня „правапарадку“. А як гэны „правапарадак“ выглядае на дзеле, паказуюць гэткія факты і дакумэнты.

Факты і дакумэнты, якія мы маем на руках, датыкаюць дзеяльнасьці паліцыі ў Стаўпецкім павеце гэтага ваяводзтва.

Перадусім—з часоў „панаваньня“ пана Рачкевіча.—Да стаўпецкіх сялян з даўных часоў належыць пляц, на які ўласьнікі маюць усе дакумэнты. Пляцам гэтым яны ўладаюць ад 1864 году, аб чым сьведчыць люстрацыйны акт. Але вось стаўпецкі ксёндз знайшоў у касьцельным архіве дакумэнт, што некалі—нешта ў XVI сталецьці ці йшчэ раней — пляц гэны належаў да касьцёла. Кусок смачны — добра б было яго ад сялян адабраць! І вось ксёндз проста захоплівае гэны пляц, стаўляе агарожу, а пан стаўпецкі староста, не чакаючы на прыгавор суда, сам выносе прыгавор у спорцы аб права ўласнасьці, пазбаўляючы сялян права карыстацца іхняй маемасьцяй. Гэта — яўны гвалт і самаўпраўства. Вось два дакумэнты, прысланыя ў гэтай справе стаўпецкай паліцыяй на імя паўнамоцніка сялян грам. Юрыя Сабалеўскага:

KOMENDA P. P.
pow. Stołpieckiego
Posterunek № 1 w Stołpcach
dn. 16. IV. 1923 r.
dz. L. 1412.

Do Pana
Jerzego Sobolewskiego
w miejscu.

Stosownie do polecenia Starostwa Stołpeckiego zabrania się Panu obrabiać ziemię należącą do kościoła i ogrodzoną kosztem tegoż kościoła.

Komendant Posterunku:
(подпіс нявыразны).

Ostrzeżenie II.

KOMENDA P. P.
pow. Stołpeckiego
Posterunek № 1 w Stołpcach
dn. 18. IV. 1923 r.
dz. L. 1412.

Do Pana
Jerzego Sobolewskiego
w. miejscu
Szpitalna Nr. 22.

Pod skutkami prawa zabrania się Panu wkraczać na plac należący do kościoła katolickiego w Stołpcach w celu obrabiania ziemi i dokonywania samowolnie ogrodzeń aż do decyzji władz sądowych. Wkopane samowolnie w dniu dzisiejszym słupy na placu kościelnym obowiązany Pan jest w przeciągu 24 godzin usunąć, a doły po takowych doprowadzić do stanu pierwotnego.

Granica placu kościelnego łączy się z parkanem domu Chmielewskiego Onufrego (Mickiewicza 5), biegnącym do ul Zagumiennej.

Komendant Posterunku:
(подпіс нявыразны).

Гэта — прыклад з часоў „панаваньня“ ў Навааградчыне п. Рачкевіча, пазьнейшага міністра ўнутраных спраў і галоўнага кіраўніка ўсяе дзяржаўнае адміністрацыі... А вось нешта ня менш пікантнае — з апошніх дзён, пад „крэпкай“ і „цьвёрдай“ рукой генарала Янушайтіса,—таго самага, які патрапіў ператрэсьці адным махам каля паўтары тысячы беларускіх сялян, западозраных у „дывэрсыйных нападах“...



У працягу трох дзён—ад 18 да 21 мая с.г.— па загаду навагрдзкае палітычнае паліцыі стаўпецкая паліцыя абхадзіла ўсіх грамадзян мястэчка, якія атрымліваюць пісьмы з Радавых Рэспублік. Ім усім рабілі дапрос паводле гэткае карты, наперад для кожнага прыгатаванае:

**KARTA Nr**..................

Nazwisko i imię

**Podejrżana korespondencja.**

1) Nazwisko i imię
2) Imię ojca, matki i t. d.
3) Gdzie urodził się
4) Wykształcenie
5) Zajęcie
6) Kogo ma krewnych w Rosji

**Rysopis:** (prowadzącego korespondencję z Rosią):

1) Twarz
2) Oczy
3) Wzrost
4) Nos
5) Włosy
6) Czy był fotografowany przez policję polityczną
7) „ „ pociągnięty do odpowiedzialności
8) „ była dokonana daktyloskopja

Як відаць з гэтага, палітычная паліцыя ў Навагрaдчыне залічыла да ліку „западозраных“ усіх тых, хто мае няшчасьце мець сыноў, братоў, сясьцер, бацькоў і іншых родных ці сваякоў у Радавым Саюзе. А такіх-жа—вельмі многа з увагі на тое, што Навагрaдчына — гэта-ж частка Беларусі і адрэзана зусім нядаўна ад Меншчыны, з якой была злучана ў адну губэрню! І вось гэныя 80 нешчасьлівых грамадзян, якія вядуць з блізкімі ім людзьмі перапіску праз кардон, цяпер будуць першымі кандыдатамі на „радавых шпіёнаў“, „дывэрсантаў“ і т. п.—бяз ніякае віны з іх боку. Затое паліцыі будзе лягчэй знахадзіць „праступнікаў“...

Характэрна ў гэтай абураючай справе яшчэ і тое, што—ня гледзячы на забясьпечаную польскімі законамі „тайну карэспандэнцыі“ — паліцыя зусім свабодна атрымлівае з пошты сьпіскі „западозраных карэспандэнтаў“. Прынамся хоць раз паліцыя публічна прызналася да гэтага!

Так выглядае ў нас „правапарадак“ — і то ўжо пасьля „маральнага перавароту“, учыненага панам Пілсудскім пры помачы аружнае сілы...

**Стаўпецкі старажыл.**

---

## Спэкуляцыя на беларускасьці.

Вядомы наймiт польскае эндэцыі самазванны „доктар“ Павлюкевіч з дазволу і багаслаўленьня польскае ўлады езьдзіў па Навагрaдчыне рабіць мітынгі і прымаць на іх рэзалюцыі аб тым, нібыто беларускае насяленьне трэбуе ад сваіх паслоў і сэнатараў, каб галасавалі ў Польскім Нацыянальным Сабраньні за кандыдатуру Маршалка Пілсудскага ў Прэзыдэнты Рэспублікі.

Як сустрэлі „гастролі“ Павлюкевіча сьвядомыя беларускія элемэнты, аб тым ужо нехта напісаў у адным з папярэдніх нумароў. Цяпер хочацца мне зьвярнуць увагу на другое.

Кожны з нас памятае, ак некалькі гадоў назад розныя „рады людовыя“ і „стражы крэсовыя“ рабілі нешта досіць падобнае тады, калі йшла справа аб замацаваньні за Польшчай Заходняе Беларусі. Памятаем, як тады баламуцілі нашае сялянства розныя польскія „людовцы“, выносячы на мітынгах рэзалюцыі або зьбіраючы подпісы нашых сялян пад пэтыцыямі аб прылучэньні тае ці іншае мясцовасьці да Польшчы.

Цяпер час крыху іншы. Навет такія „левыя“ польскія партыі, як „Вызволене“ ды П П С (польскія сацыялістыя) ня маюць ужо тае да сябе веры ў беларускіх працоўных масах.

І вось — польскі нацыяналізм знайшоў сабе „доктара“ Павлюкевіча, які стараецца праводзіць польскую нацыяналістычную задачу пад маркай беларуса.

Нічога дзіўнага няма ў тым, што чалавек, які яшчэ ўчора рад быў „за приличное вознаграждение“ выпаўняць загады чыста буржуазных, гэтак скандальна скінутых польскіх урадаў, сягоньня зьмяняе скурку, пасылае віншавальную тэлеграму пану Пілсудскаму, перакідаецца ў гэтак званыя „пілсудчыкі“ і стараецца (пэўна-ж не задарма!) муціць беларускае сялянства, каб яно сваімі рэзалюцыямі націскала на сваіх-жа законных прадстаўнікоў, выбраных усім беларускім насяленьнем, галасаваць у Нацыянальным Сабраньні так, як п. Павлюкевіч і яго закашчыкі лічаць патрэбным.

Павлюкевічаўскія рэзалюцыі, як акцыя „казённага“ польскага агітатара, нікому з беларусаў непатрэбны. Патрэбны яны можа ўсялякім вызваленцам і пэпэсам, усяму леваму кірунку польскага нацыяналізму. Дык і ніводная з беларускіх пасольскіх групаў у Сойме і Сэнаце ніякае ўвагі на іх не зьвярнула, а беларускія паслы і сэнатары за мар. Пілсудскага ў Нацыян. Зборы не галасавалі.

Калі паслом нашым трэба ведаць апошнія думкі й жаданьні свайго сярмяжнага народу, дык яны самі ведаюць, што ім рабіць: ладзяць свае справаздаўчыя мітынгі і беспасрэдна ад насяленьня, іх выбраўшага, даведваюцца аб нашых, як нацыянальных, так і сацыяльных балячках. Дзіўна неяк, што Павлюкевіч—адзін адзіны „беларус“ на ўсе Крэсы — мае прывілей склікаць мітынгі, ня будучы ані паслом ані сэнатарам.

Але, добра разглядзеўшыся, вялікага дзіва тут няма: плаціў калісь Павлюкевічу Барыс Савінков, дык Павлюкевіч арганізоўваў з Савінковым у тэй-жа самай Навагрaдчыне „Крестьянский Союз“, заклікаючы беларусаў да адбудаваньня „третьей Росии“. Гэткая „праца“ Павлюкевіча крыху не згаджалася з польскаю паньствовасьцю“ і спрытны „доктар“ быў навет прыарыштованы... польскімі ўладамі. Цяпер Павлюкевіч мае іншых працадаўцаў і дзеля гэтага робіць іншае.

Хто сачыў за яго адкрытымі выступленьнямі, за яго пісанінай у сваёй рэптыльнай газэтцы, той

добра разумее, які з Павлюкевіча „беларускі“ дзеяч. Напрыклад, калі даведаўся Павлюкевіч, што беларусы мелі няўдачу на выбарах у Латвіі, дык адразу ўцешыўся на шпальтах свайго нябожчыка „Грам. Голасу“. Калі пачуе ён, што беларусам не ўдаецца шырока арганізавацца ў Амэрыцы, ды цешыцца таксама. Бяльмом на вачох Павлюкевіча зьяўляюцца навет праўдзівыя кузьні беларускае культуры; усе памятаем, што выпісваў ён у сваёй газэціне пра Віленскую Беларускую Гімназію, пра яе вучняў, з якіх дзе-хто быў навет катаваны дэфэнзываю, аб чым сьведчаць інтэрпэляцыі нашых паслоў да польскіх міністраў.

Дзеля чаго ўсё гэта робіцца, лёгка зразумець: проста, кажучы парасейску, „гони монету!“ —Але сябраваньне польскіх лева-нацыяналістычных партыяў з п. Павлюкевічам, дапусканьне яго на свае вечы, як гэта было на ладжаных у Вільні на карысьць п. Пілсудскага пэпэзсаўскіх вечах, — ня робіць чэсьці польскай дэмакратыі. Навет больш: яно сьведчыць, што польскія „левыя“ нацыяналісты, калі-б і мелі сілу, дык далі-б беларусам акурат тое самае, што давалі папярэднія ўрады,—іменна: „асабістыя канцэсіі“ (прасьцей: юдавы срыбнікі...) розным Павлюкевічам і — **ніякіх уступак Беларускаму Народу!** **М.**

# Карэспандэнцыі.

**Прысылаючы карэспандэнцыю — не забывайцеся падаваць свой адрас і прозьвішча — для ведама рэдакцыі.**

**Рэдакцыя ня можа памясьціць карэспандэнцыі, ня ведаючы, ад каго яна.**

**Мы ўжо мелі выпадкі, што ворагі нашы прысылалі выдуманыя і непадпісаныя карэспандэнцыі з мэтай падвясьці газэту.** **Рэдакцыя.**

## Водгукі галадоўкі ў Наваградзкай турме.

Урадовае паведамленьне аб галадоўцы ў Наваградзкай турме ўсю адказнасьць валіць на арыштантаў, якія быццам пад кіраўніцтвам камуністаў стараліся выкарыстаць пераварот і завясьці ў вастрозе новыя парадкі.

Запраўды-ж прычына галадоўкі саўсім не палітычныя зьмены.

Як-бы ні тлумачылася адміністрацыя вастрогу,—яна вінавата ў галадоўцы; вінаваты тыя парадкі, цярпець каторыя вязьні ня мелі больш сілы.

Пасол Сабалеўскі з соймавай трыбуны знаёміў грамадзянства з Наваградзкім вастрогам, але ён далёка не сказаў усяго.

Вось хоць бы карцэр. Правадыроў галадоўкі пасадзілі ў карцэр. Здавалася-б, нічога страшнага, усё роўна—ці камэра, ці карцэр.

У нас-жа пануе звычай, што арыштанта, каторага караюць такім спосабам, разьдзяваюць перад тым да-гала і кідаюць на цэмэнт для „podjęcia powagi instytucji“. Пасол Сабалеўскі забыўся мусіць, што сам ён быў сьведкам гэтага.

Далей правакацыя. Паслу ведама, як правакатар Окуродскі, з каторым няньчыцца адміністрацыя турмы, вёў падкоп, а кару панясьлі за гэта саўсім нявінныя людзі...

Або вось справа апошняй галадоўкі. Адміністрацыя загатаўляе звычайна вялікі запас бульбы. Бульбу гэтую абкладываюць саломай. Да вясны, ясна, салома збутвеець, згніець, сьмярдзіць. Яе цяпер высушылі і хацелі набіць сяньнікі, гэта і было падставай галадоўкі. Няхай бы тыя, каму здаецца справа сяньніка мала важнай справай, папрабавалі спаць на гнільлю! Яны-бы тады сказалі, ці за гэта трэба дзякаваць, ці крычэць на ўвесь сьвет, просячы ратунку ад павольнага атручваньня!

Чакаем ад пасла Сабалеўскага, які знаёмы з палажэньнем у Наваградзкай турме, што ён возьмецца на сябе абавязак дабіцца ад улады зьмены парадкаў, пануючых тутка. **Асташынец.**

## Новыя „дабрадзеі“.

(Баранавіцкі пав.).

Ад веку чмуцяць мужыку галаву паны, папы ды іхныя верныя людзі,—дзякі, пісары і іншыя.

Цяпер у нас знайшліся новыя „дабрадзеі“—польская партыя сацыялістаў (ППС), якія выдаюць газэту „Красное Знамя“.

Чым, здавалася-б, благая партыя? Праграма—чытай ды цешся.

Вось-жа ў вёсцы Грабоўцы запісаліся людзі ў пэпээсы. Хоць сяляне цяперака і асьцярожныя,—пацягнуў за сабой грам. Шукала, звольнены нядаўна з пасады машыніста на вузкакалейцы. Свой чалавек — ну дык і пайшлі за ім.

Праўда, для тутэйшай адміністрацыі навет пэпээсы страшныя. Шукала ўжо сядзіць у арышце. Засудзілі яго на 2 тыдні. У нас аднак гэта нічога: садзяць тутка і на некалькі гадоў. Ды ня ў тым справа.

Шукала скора зрабіўся заступнікам старшыні павятовага камітэту пэпээсаў—Махая. Мы пазнаёміліся тады бліжэй з Махаем і шмат чаго даведаліся. Махай — гэта старшыня польскіх легіяністаў, ужо атрымаўшых у павеце асады з пад носу нашага сялянства. Быў ён жандармам, пасьля служыў у PKU у Баранавічах, мае трох братоў, з якіх адзін ужо атрымаў асаду каля вёскі Пастарыкі, Сталавіцкай гм., два другія маюць крамку ў тэй-жа вёсцы ды лічацца кандыдатамі на асаднікаў, а сам Махай не адмовіўся ад асады каля Ліды. Спачатку не хацелася верыць, што гэтакі ён „сацыяліст“. Пераканаліся пасьля, што праўда,—праўда ясная, як сонца.

Вось дык езуіты, вось і слухай іх! Гавораць адно, а робяць другое.

Шукайце, сяляне, сваей арганізацыі, ня лезьце да пэпээсаў. Няхай жыве Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада. **Нехта з вясковых.**

## Нашае начальства і зладзействы.

(Столбцы).

Нашыя Столбцы з бруднага мястэчка перамяніліся цяпер у павятовае места.

У зьвязку з гэтым панаяжджалі сюды з ўсіх канцаў Польшчы хмары чыноўнікаў, паліцыянтаў, сышчыкаў, дык у дзень кірмашу цяжка з імі на рынку разьмінуцца. У Стоўпцах яны паразьядаліся, панадзявалі „лякеры“ ды з пагардай глядзяць на беларускае „быдла“—гэта значыць на мяйсцовых сялян і работнікаў.

Дзеля большай выгоды гэтых панкаў казна пабудавала штук 15 дамоў, гдзе яны і жывуць прыпяваючы. Быў праект навет будаваць яшчэ новыя, але міністар фінансаў аглядзіўся нарэшце, што грошаў няма, дык будова прыпынілася.

Адным словам, жыцьцё чыноўніка пастаўлена—нягледзячы на агульнае цяжкое палажэньне—ў вельмі добрыя варункі.

Хаця павет наш мае быць злучаны з суседнім, што даўно ўжо з мэтай эканоміі трэба было зрабіць,—чыноўкі хочуць, відаць, загаспадаравацца на ўсе жыцьцё за народныя грошы. Так „Starosta“ купіў сабе аўтамабіль за 7.000 зл., а 7.000 выходзіць у яго паводлуг сьметы на абслугу, бэнзыну і г. д. Школьны інспэктар мае таксама свой асобны параконны выезд, камэндант паліцыі — таксама.

Усе людзі гэтыя забыліся хадзіць пехатой, а плаціць мусіць працуючы народ.

Але чыноўнікі яшчэ нездаволены: знайшліся між імі такія, якія наважыліся проста абакрасьці казначэйства.

З касы ўзяў нехта па фальшывай асыгнаце 65,000 злотых. Аказалася, што зладзеем быў самжа казначэй Блоньскі.

Яго, жонку і чыноўніка Яворна арыштавалі ды пасадзілі ў Навагрудзкай турме. **Лесавік.**

## Куды дзяюцца народныя грошы.

(Стаўпецкі пав.).

У маі месяцы с. г. на Засульскую гм., Стаўпецкага пав. было асыгнавана каля 5 1/2 тысяч злотых.

Грошы гэтыя мелі быць выданы мяйсцоваму насяленьню, як помач пры засевах. Ня нам прыйшлося карыстацца імі, хаця падаткі бяруць з нас акуратна. Староста разьдзяліў грошы прыблізна гэтак: 5.000 зл. дасталася мяйсцовым абшарнікам — чатыром братом Крупскім, рэшта-ж—некалькім сялянам з гміны. Рука руку мые! Крупскія маюць шырскія сувязі (сам бышы міністар, а цяперашні ваявода — Рачкевіч прыяжджае да іх у госьці). Ня дрэнна жывецца і розным панскім слугам. Войт Засульскай гміны, лякай Крупскіх, вялікі патрыёт Жолнеркевіч не забываецца аб сваей кішані. За час свайго ўрадаваньня ён нейкім чынам умудрыўся купіць сабе ў Ракавіцкай гміне цэлы фальварак. Адна польская газэта так яго і нязывае „złodziej Zasulskiej gminy“.

Па вёсках тымчасам езьдзяць экзэкутары і бяруць ад мужыкоў кажухі ды падушкі **Засульскі.**

## Самаўрады.

(Слонімшчына)

У Чамярох (Слонімшчына) яшчэ ад 1919 годзе вёўся звычай мяняць што-год грамадзкага солтыса. Папярэднія солтысы, мяйсцовыя людзі, прыймалі абавязак, калі грамада ім яго давала, але ахвотна і ўступалі згодна з воляй сваіх выбаршчыкаў. Аднак, мусіць, няма ніводнага стада без паршывае гавечкі. Становішча солтыса ў 1924 годзе грамада Чамерская даручыла свайму гр. Аляксандру Дземяшэвічу. Спачатку ён быў солтыс нішто, пакуль не расьпіўся. Прыйшоў час новых выбараў. Адбыліся яны ў лістападзе 1925 году, і грамада аднагалосна выбрала солтысам Антона Хвясеню. Зрабілі пратакол, падпісаліся, адаслалі і чакаюць. Праз неякіх месяцаў два пайшлі чуткі, што Слонімскі павятовы староста пан Пшэцішэвскі чамусьці не зацьвердзіў выбараў і даручыў войту гміны В. Корчыцу зрабіць перавыбары. Прыехаў войт. Грамада сабралася, як адзін, у хаце солтыса Д. Солтыс быў п'яны, як дым. Ня мог языком валадаць. Калі гаварыў штось,

**Пры гэтым нумары ўсім нашым падпішчыкам рассылаецца кніжачка: „Праграма і арганізацыйны статут Беларускае Сялянска Работніцкае Грамады“.**

дык ня можна было разабраць яго гутаркі. Грамада зноў аднагалосна выбрала свайго новага кандыдата Антона Хвясеню. Новага солтыса аднак ізноў не зацьвердзілі, а старому далі неаграніченыя паўнамоцтвы. Дземяшэвіч ад сябе назначыў сабе заступнікам Максіма Міску, і работа пайшла. Пасьля новай прысягі стары солтыс пачаў піць пановаму. А, п'ючы, каб не падгадзіць і апраўдаць даверые начальства, пачаў душыць людзей і падаткамі, фурманкамі, і дарогамі. Стогнам стогнуць людзі ад гвалтаў, а зьмяніць стаўленіка ўсемагутнага старосты ня могуць. Мо' хіба нашы паслы што зробяць?

Вось якія ў нас самаўрады! 90 падпісаў ад 700 душ жыхараў нічога ня варты. Староста скідае, староста і назначае. Пікнуць ніхто ня сьмее!

Неяк каля 25 га красавіка сёл. году наляцела на вёску Чамяры, Слонімскага пав., гміннае начальства: войт Чамерскай гміны Вандалін Корчыц, паліцыянт гміннага пастарунку п. Сініцкі, памоцнік гміннага сэкрэтара, ды сам пан солтыс Чамерскай грамады Аляксандар Дземяшэвіч. Прыехаўшы на вёску, яны зажадалі, каб зараз-жа ў адзін дзень усе жыхары вёскі заплацілі розныя зацягнуўшыяся падаткі за мінулыя гады. Сьмешна падумаць! Дзе возьме селянін грошай на падаткі за дзень, калі ён ня мог іх заплаціць за некалькі гадоў!

Але „начальства“ пачало па-свойму. Яно проста брала ў гаспадароў усё, што пападалася пад руку.

Гэтак у беднага жыхара вёскі Чамяры Мікалая Багданчука забралі ўсё яго збожжа: жыта каля 20 пудоў, грэчкі каля 5 пудоў, падоўжнюю пілу і папярэчнюю пілу і сякеры. Жыта і грэчку дзеткі Багданчука зарабілі, пасучы быдла сваіх суседзяў, а падоўжнюю пілу яны пазычылі ў Дзеравянчычах, каб напілаваць дашок хоць на вокны ў хаце. І вось гэнае запрацованае цяжкай працай пастуха — забрана за падаткі. Бачучы пагражаючы сям'і голад, Багданчук уперш прасіў, каб яго калеку ня нішчылі, каб не забіралі ў яго дзетак апошняга куска; аднак дарма! І збожжа і рэчы цяпер у гміне, а сьляпога пакрыўджанага Багданчука цягаюць цяпер яшчэ за „абразу ўлады“. Ужо ад пракурора ёсьць паперка, што Багданчука будзець судзіць Акружны Суд і прапануюць яму паставіць сьведкаў ад сябе і наняць адваката. Але беднаму сьляпому няма за што. Ен пачарнеў ад голаду, апусьціў рукі і без надзеі жджэ, каб хоць хутчэй крапіўка вырасла, а на розныя папяровыя „вскaзувкі“ і тэрміны не зьвяртаець увагі. Хай будзе, што будзе!

**Чупрыновіч.**

# Юрыдычныя парады.

**Янку Толкавічыку.** *Запытаньне*: Мае бацькі памерлі ў 1925 годзе, аставіўшы 8 дзесяцін зямлі спадку, з каторых 3 дзесяціны па бацьку, а 5 дз. па матцы. Пасьля сьмерці бацькоў асталося нас двое, я і малодшая сястра, каторая вышла замужь у канцы 1925 году. Цяпер сястра хоча адабраць ад мяне спадчыну па матцы, астаўляючы мне спадчыну па бацьку.

*Адказ*: Цяпер сястра мае роўнае права з братам, так што Ваша сястра мае права на 1/2 ўсяе спадчыны.

# Усячына.

## Варшаўскія „дасьціпы“.

Правыя газэты зьмяшчаюць тыя жарты, якія ходзяць па Варшава ў зьвязку з апошнімі падзеямі.

Кажуць, што—„пачалося на мосьце, а скончылася на—Мосьціцкім“.

Вельмі жартуюць над запраўды-ж недарэчнай сцэнай, калі генаралы зрабілі пасьля выбару п. Пілсудскага пышны парад на Саскім пляцу, у часе якога найвышэйшы з іх падыйшоў да памятніка Панятоўскага дый... адрапартаваў яму аб тым, што Прэзыдэнтам выбраны першы маршалак Польшчы Пілсудскі... Жартуюць, што прафэсары ўсіх вышэйшых школаў Варшавы маюць зрабіць „акадэміцкі парад“ перад памятнікам Капэрніка, каб закамунікаваць яму аб выбары ў прэзыдэнты — **праф. фізыкі** Мосьціцкага...

Забаўляюцца варшаўскія паны, ваенныя ды цывільныя, а навакол дый унутры—бяда...



Адказны-Рэдактар: **Ал. Вільчыцкі.** Друкарня **Н. Левін і Сын,** Вільня, Нямецкая 22. Выдавец пасол на Сойм **П. Мятла.**